

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 5 студзеня 1990 г. № 1 (3515)** ⊙ Цана 10 кап.

## *Надзённая цытата*

**«На парозе 1990-ы год—год вялікіх надзей і практычных дзеянняў па рэвалюцыйнай перабудове сацыялізму. У новым годзе нам будуць неабходны рашучасць і цвёрдасць у нашай рэвалюцыйнай рабоце, спалучэнні ўсіх сіл, якія выступаюць за перабудову. Нам жыццёва неабходны розум і дабрата, цярпенне і цярпімасць, тое галоўнае чалавечае, што ёсць, я ўпэўнен, у кожным чалавеку.**

**Мы маем сапраўды ункальныя магчымасці: вельмі багаты інтэлектуальны і працоўны патэнцыял, велізарныя прыродныя рэсурсы. Выкарыстоўваючы іх, мы можам і павінны ў 1990 годзе пераламаць сітуацыю да лепшага. Але для гэтага ўсім нам трэба добра, сумленна папрацаваць».**

(З Навагодняга звароту да савецкага народа Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. ГАРБАЧОВА).

## Утворана краязнаўчае таварыства

У Мінску 25—27 снежня адбыўся форум краязнаўцаў рэспублікі. (Ён задумваўся і пачынаў працу як канферэнцыя, але потым абвясціў сябе з'ездам). На ім быў заслуханы шэраг навуковых дакладаў, з якімі выступілі Г. Каханоўскі («Краязнаўства ўчора, сёння, заўтра»), М. Чарняўскі («Часопіс «Наш край» і адраджэнне краязнаўства»), М. Ткачоў («Гістарычныя сімвалы нашага краю»), А. Мальдзіс («Краязнаўства на сутоку навук») і інш.

З'езд вырашыў адрадзіць Беларускае краязнаўчае таварыства (спыніла сваю дзейнасць у 30-ыя гады), прыняў статут, выбраў кіруючыя органы БКТ. Старшынёй Таварыства стаў Г. Каханоўскі.

Справаздачу аб рабоце з'езда мяркуецца надрукаваць у адным з бліжэйшых нумароў «ЛіМа».

НАШ КАР.

## ПАСЛАННЕ МІТРАПАЛІТА

З навагодняй поштай рэдакцыя газеты атрымала каляднае пасланне мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага **Філарэта**, патрыяршага экзарха Беларусі.

У пасланні, у прыватнасці, гаворыцца: «Мінулы год у жыцці Рускай Праваслаўнай Царквы і нашай Беларускай епархіі быў пазначаны гістарычнымі падзеямі. Мы адзначылі 400-годдзе Патрыяршаства на Русі. У Маскве Сабор Архіерэяў адрадзіў нашыя старадаўнія епіскапскія кафедры ў Полацку, Магілёве і Пінску. Беларуская мітраполія атрымала статус Экзархата. Адрадзілася Мінская Духоўная семінарыя ў Жыровіцкім манастыры, адбыўся першы выпуск Духоўнага вучылішча пры Мінскім Епархіяльным упраўленні, зноў адчыняецца старадаўні Спаса-Ефрасінеўскі жаночы манастыр у Полацку. Усе гэтыя перамены ажыўляюць дух нашага народа, прыхіляюць яго да маральнага ўдасканальвання.

Сёння, калі абнаўляецца ўсё наша грамадства і вырашаецца лёс беларускага народа, хай ніхто з вас не застанецца збоку ад усяго таго, што датычыцца ўмоў жыцця і працы нашых грамадзян.

У рэспубліцы востра адчуваюцца наступствы трагедыі Чарнобыля. Наша шматпакутная зямля, не раз абмытая крывёю бацькоў і дзядоў, і далей забруджваецца шкоднымі адкідамі і адчувае неахайныя да сябе адносіны. Няхай кожны з вас возьме годнасны ўдзел у служэнні сваім братам і сёстрам і ўсяму грамадству».



**«Музыканцікі, рэж!»** Выступае салістка Дзяржаўнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча Святлана СУСЕДЧЫК. Фота Ул. КРУКА.

У НУМАРЫ:

# ПЛАТФОРМА

## Камуністычнай партыі Беларусі да выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і мясцовых Саветаў рэспублікі

### 1. АСНОЎНЫЯ МЭТЫ І НАПРАМКІ ПАЛІТЫКІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ ПА ПАГЛЫБЛЕННІ ПЕРАБУДОВЫ

Кампартыя Беларусі будуе сваю дзейнасць на асноватворных прынцыпах марксізму-ленінізму, на інтэлектуальным і маральным патэнцыяле ідэі пабудовы гуманнага, свабоднага і дэмакратычнага грамадства. Яна прыхільная да сацыялістычных ідэалаў, рашуча адкідвае ўсё тое, што скажала і дэфармавала сацыялізм, праводзіць палітыку глыбокага абнаўлення грамадства, разам і зыходзячы з інтарэсаў рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, усіх слаёў насельніцтва, прадстаўнікоў усіх нацый і народнасцей, якія пражываюць у рэспубліцы.

У цэнтры сваёй дзейнасці Кампартыя Беларусі ставіць задачу ажыццяўлення ідэй перабудовы, падрыхтоўку да XXVIII з'езда КПСС і XXXI з'езда КПБ, галоўную ўвагу ўдзяляе клопатам аб чалавеку, яго матэрыяльным дабрабыце, духоўным і маральным развіцці. Яна настойліва дабіваецца паляпшэння жыцця насельніцтва рэспублікі на базе сацыяльнай пераарыентацыі эканомікі, пераходу на самакіраванне і самафінансаванне, павышэння эфектыўнасці народнай гаспадаркі. Асаблівую ўвагу Кампартыя сканцэнтроўвае на няўхільным і паслядоўным выкананні Дзяржаўнай праграмы ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Кампартыя Беларусі — за рэальны суверэнітэт Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў абнаўляемай адзінай савецкай федэрацыі. Яна выступае за новы статус Кампартыі саюзнай рэспублікі ў саставе абноўленай КПСС, за ўмацаванне яе самастойнасці, за права вырашаць арганізацыйна-структурныя, кадравыя, фінансавыя і іншыя пытанні ў межах Праграмы і Статута КПСС. Яна актыўна падтрымлівае працэсы нацыянальнага адраджэння, прынцыпы ўзаемапавагі і свабоднага развіцця народаў, вядзе барацьбу з праяўленнямі нацыяналізму, сепаратызму, іншымі антысацыялістычнымі плынямі. Удзельнічае ў выпрацоўцы і рэалізацыі стратэгіі і тактыкі КПСС.

Кампартыя Беларусі дабіваецца шырокай дэмакратызацыі ўнутрыпартыйнага жыцця, развіцця самастойнасці і ініцыятывы пярвічных партарганізацый, творчай актыўнасці і высокай адказнасці камуністаў, забяспечвае калектыўнасць кіраўніцтва, галоснасць і адкрытасць у рабоце. Сваю аб'ядноўваючую і авангардную ролю яна зацвярджае выпрацоўкай і ажыццяўленнем палітычнай лініі, якая адпавядае інтарэсам народа, канкрэтнымі справамі па абнаўленні сацыялістычнага грамадства.

Кампартыя Беларусі паслядоўна і настойліва ажыццяўляе дзейнасць у імя рэалізацыі ленінскага міралюбівага знешнепалітычнага курсу ў духу новага мыслення.

Свой палітычны курс Кампартыя Беларусі праводзіць практычнай работай у масах, дзейнічаючы ў рамках Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР праз партыйныя камітэты, пярвічныя партарганізацыі і камуністаў, якія працуюць у Саветах народных дэпутатаў, гаспадарчых органах, грамадскіх арганізацыях, працоўных калектывах.

### 2. КУРС — НА АБНАЎЛЕННЕ САЦЫЯЛІЗМУ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Кампартыя Беларусі цалкам падтрымлівае ўзяты КПСС курс на духоўнае абнаўленне грамадства і ў сваёй дзейнасці ставіць наступныя асноўныя задачы:

поўнае аднаўленне, творчае развіццё і ажыццяўленне ленінскай канцэпцыі сацыялізму;

навуковы аналіз гістарычнага мінулага нашай рэспублікі і Кампартыі Беларусі, непрыманне любых спроб фальсіфікацыі, аднабокага тлумачэння падзей і фактаў мінулага, прыніжэння сусветна-гістарычнай ролі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і сацыялістычных заваёў, іх значэння для лёсаў беларускага народа, стварэнне на гэтай аснове падручнікаў і іншай літаратуры па гісторыі БССР і Кампартыі Беларусі;

— духоўна-маральнае ўзбагачэнне чалавека, фарміраванне марксісцка-ленінскага светапогляду, высокіх маральных якасцей, усталяванне зацікаўленых адносін да працы, прафесіяналізму, кампетэнтнасці, дысцыпліны і адказнасці, інтэрнацыяналісцкіх і патрыятычных якасцей, увекавечанне памяці загінуўшых у барацьбе з фашызмам, пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Кампартыя Беларусі будзе настойліва ажыццяўляць ленінскія прынцыпы патрыятызму і інтэрнацыяналізму, дружбы народаў, адзінства савецкай федэрацыі, цвёрда стаяць на платформе КПСС па нацыянальнай палітыцы ў сучасных умовах.

У галіне народнай адукацыі, развіцця нацыянальнай школы Кампартыя Беларусі накіроўвае сваю дзейнасць на вырашэнне наступных першачарговых задач:

— забеспячэнне выканання заканадаўчых актаў па народнай адукацыі;

— павышэнне грамадскага статуса і прэстыжу народнай адукацыі, узвышэнне аўтарытэту настаўніка, дэмакратызацыі школы, гуманізацыі і дыферэнцыяцыі навучання і выхавання; поўнае задавальненне адукацыйных і нацыянальна-культурных запатрабаванняў, стварэнне ўмоў для эстэтычнага выхавання навучэнцаў і студэнтаў; узмацненне ролі і адказнасці сям'і, працоўных калектываў і грамадскасці ў духоўна-маральным выхаванні падрастаючага пакалення, забеспячэнне да 1995 года патрэбнасцей насельніцтва ў дашкольных установах;

— значнае павелічэнне долі расходаў на народную адукацыю ў нацыянальным даходзе рэспублікі, прыцягненне для гэтых мэт сродкаў працоўных калектываў, арганізацый, ведамстваў, вывад вучэбнай і даследчай базы народнай адукацыі на сучасны ўзровень.

У нацыянальна-культурнай сферы Кампартыя Беларусі лічыць неабходным:

— распрацоўку канцэпцыі развіцця нацыянальнай культуры і мастацтва, выключэнне праяўленняў адміністравання ў галіне мастацкай творчасці;

— прыняцце рэспубліканскай праграмы захавання і развіцця беларускай гісторыка - культурнай спадчыны «Спадчына» і культур прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі БССР, поўную роўнасць у правах жыхароў Беларусі пры задавальненні нацыянальных культурных запатрабаванняў, барацьбу з пранікненнем у культуру і мастацтва чужых сацыялізму ідэалаў і маралі;

— перабудову механізма кіравання сферай культуры, значнае павелічэнне асігнаванняў на яе патрэбы, умацаванне матэрыяльнай базы для арганізацыі вольнага часу людзей, правядзення работ па рэстаўрацыі гістарычных помнікаў;

— усямерную падтрымку дзейнасці творчых саюзаў і іншых арганізацый, якія садзейнічаюць далучэнню народа да культурнай спадчыны;

— павышэнне якасці падрыхтоўкі кадраў мастацкай інтэлігенцыі, паляпшэнне ўмоў іх дзейнасці, расшырэнне сеткі дамоў творчасці, мастацкіх майстэрань, інтэрнатаў і жылых дамоў для творчай моладзі;

— паглыбленне культурнага супрацоўніцтва з іншымі рэспублікамі, зарубежнымі краінамі, шырокае азнаямленне насельніцтва з сусветнай культурнай спадчынай, умацаванне сувязей з суайчыннікамі, якія жывуць за рубяжом, адкрыццё беларускіх культурных цэнтраў у брацкіх рэспубліках і зарубежных краінах;

— безумоўнае выкананне ленінскіх прынцыпаў у адносінах да рэлігіі і яе арганізацый, падтрымку іх дабрачыннай і міратворчай дзейнасці.

У галіне моўнай палітыкі Кампартыя Беларусі выказваецца за:

— наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай пры поўным забеспячэнні права карыстання рускай мовай — мовай міжнацыянальных зносін народаў СССР, свабоднага і раўнапраўнага развіцця іншых нацыянальных моў насельніцтва рэспублікі, распрацоўку і прыняцце дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у БССР;

— усямерную падтрымку дзейнасці «Таварыства беларускай мовы» імя Ф. Скарыны і іншых культурна-асветных таварыстваў, якія ставяць на мэце прапаганду беларускай мовы і моў людзей іншых нацыянальнасцей, што пражываюць на тэрыторыі Беларусі.

У рабоце са сродкамі масавай інфармацыі Кампартыя Беларусі выступае за:

— канструктыўнае, дэмакратычнае і зацікаўленае ўзаемадзеянне партыйных камітэтаў з рэдакцыйнымі калектывамі ў справе кансалідацыі ўсіх здаровых сіл грамадства на шляху абнаўлення; развіццё творчай актыўнасці журналісцкіх кадраў, стварэнне ў рэдакцыйных калектывах абстаноўкі прынцыповасці, павышэнне асабістай адказнасці журналістаў за праўдзівасць і дакладнасць публікацый;

— пастаяннае аператыўнае інфармаванне насельніцтва аб дзейнасці партыйных і дзяржаўных органаў праз друк, радыё, тэлебачанне, прэс-групы партыйных камітэтаў, міністэрстваў і ведамстваў, рэгулярныя сустрэчы і выступленні членаў Бюро ЦК КПБ, урада, іншых кіруючых работнікаў у працоўных калектывах, Рэспубліканскім прэс-цэнтры;

— умацаванне эканамічнай, паліграфічнай і тэхнічнай базы газет, выдавецтваў, радыё і тэлебачання.

### 3. ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА ВА ЎМОВАХ САМАКІРАВАННЯ І САМАФІНАНСАВАННЯ

Кампартыя Беларусі лічыць неабходным на аснове прынцыпаў самакіравання і самафінансавання, пераходу да эканамічных метадаў гаспадарання забяспечыць поўнаўладдзе Саветаў у вырашэнні ўсіх пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**Кампартыя Беларусі выступае за:**

— разнастайнасць форм уласнасці, якія выключаюць эксплуатацыю чалавечай працы;

— за ўсямернае ўмацаванне калгасаў і саўгасаў як галоўных вытворцаў сельскагаспадарчых прадуктаў для народа;

— пабудову эканамічных узаемаадносін працоўных калектываў з органамі кіравання на строга прававой аснове;

— прыняцце законаў аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы, аб сацыялістычным прадпрыемстве, аб уласнасці, аб зямлі, аб арэндзе і арэндных адносінах, аб адзінай падатковай сістэме;

— удасканаленне структуры і паляпшэнне грамадскай вытворчасці, павышэнне тэхнічнага ўзроўню і якасці прадукцыі, зніжэнне яе матэрыяла- і энергаёмістасці на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу, умацаванне працоўнай тэхналагічнай дысцыпліны;

— дасягненне ў трынаццатай пяцігодцы прыросту атрыманага нацыянальнага даходу не менш чым на 25 працэнтаў і забеспячэнне ўдзельнай вагі рэсурсаў для спажывання і невытворчага будаўніцтва не ніжэй чым 85 працэнтаў;

— інтэнсіўнае развіццё і эфектыўнае выкарыстанне навуковага патэнцыялу рэспублікі, павелічэнне асігнаванняў і матэрыяльных рэсурсаў на яго патрэбы, умацаванне доследна - эксперыментальнай базы, арыентацыю фундаментальных і прыкладных даследаванняў на паскоранае развіццё народнагаспадарчага комплексу;

— прыярытэтнае развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, перапрацоўчых галін аграпрамысловага комплексу і лёгкай прамысловасці, іх тэхнічнае пераасnашчэнне, перапрафіліраванне і стварэнне новых магутнасцей па вытворчасці тавараў народнага спажывання. Забеспячэнне іх выпуску на неспецыялізаваных прадпрыемствах у аб'ёме не ніжэй фонду аплаты, паскарэнне канверсіі абаронных прадпрыемстваў;

— павышэнне эфектыўнасці работы ўсіх відаў транспарту; павелічэнне аб'ёмаў паслуг насельніцтву ў 13-й пяцігодцы не менш чым у 1,5 раза, у тым ліку сельскаму—у 2 разы;

— эфектыўнае выкарыстанне капітальных укладанняў, змяненне інвестыцыйнай палітыкі, нарошчванне вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і базы будындустрыі як неабходнай умовы забеспячэння развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі, вырашэння жыллёвай і іншых сацыяльных праблем; задавальненне да 1995 года патрэбнасцей рэспублікі ў асноўных відах будаўнічых матэрыялаў;

— комплекснае развіццё прадукцыйных сіл і іх рацыянальнае размяшчэнне на тэрыторыі рэспублікі з улікам мясцовых умоў, наяўнасці вытворчага патэнцыялу, прыродных і працоўных рэсурсаў, экалагічнай абстаноўкі; абмежаванне будаўніцтва і расшырэнне энергаёмістых і металаёмістых вытворчасцей;

— стварэнне гібкай сістэмы падаткаў, цэн і тарыфаў, іншых эканамічных рычагоў, накіраваных на павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, зацікаўленасці працоўных у выніках сваёй працы;

— расшырэнне сферы дзейнасці спажывецкай кааперацыі, павышэнне яе ролі ў забеспячэнні насельніцтва сельскай мясцовасці харчовымі і прамысловымі таварамі, паляпшэнне нарыхтоўчай дзейнасці, арганізацыі перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі на месцах;

— развіццё кааператываў, якія працуюць у роўных умовах з дзяржпрадпрыемствамі, асабліва тых, што спецыялізуюцца на вытворчасці тавараў народнага спажывання і аказанні паслуг насельніцтву па цэнах, блізкіх да дзяржаўных, спыненне спекуляцыі і атрымання непрацоўных даходаў;

— расшырэнне знешнеэканамічных сувязей, удасканаленне структуры экспарту і імпарту прадукцыі, стварэнне на ўзаемавыгаднай аснове сумесных прадпрыемстваў, міжнародных аб'яднанняў і арганізацый, якія садзейнічаюць павышэнню навукова - тэхнічнага патэнцыялу рэспублікі і павелічэнню выпуску высакаякасных спажывецкіх тавараў.

### 4. САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

Кампартыя Беларусі выступае за:

— паслядоўнае ажыццяўленне мер, накіраваных на рост рэальных даходаў насельніцтва, павелічэнне выплат з грамадскіх фондаў спажывання і ўдасканаленне сістэмы іх размеркавання, ліквідацыю незаконных ільгот, паляпшэнне сацыяльнага забеспячэння пенсіянераў, інвалідаў, мнагадзетных сем'яў і іншых груп насельніцтва з нізкім узроўнем даходаў, вырашэнне ў першачарговым парадку надзённых праблем ветэранаў вайны, воінаў - інтэрнацыяналістаў, стварэнне ў калгасах і саўгасах дамоў адзінокіх састарэлых грамадзян і дамоў сацыяльных паслуг;

— паскарэнне вырашэння харчовай праблемы на аснове пераўтварэння эканамічных адносін у вёсцы, развіцця гаспадарчага разліку, арэнды і іншых эфектыўных форм гаспадарання, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасаў, саўгасаў і прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу, шырокага выкарыстання прагрэсіўных тэхналогій, дасягненняў навукі, тэхнікі і перадавога вопыту. Развіццё спецыялізацыі і канцэнтрацыі вытворчасці, міжгаспадарчай кааперацыі і аграпрамысловай інтэграцыі. Істотнае расшырэнне базы перапрацоўкі і захоўвання прадукцыі, будаўніцтва малых перапрацоўчых прадпрыемстваў і цэхаў у месцах яе вытворчасці. Стварэнне спрыяльных умоў жыхарам вёскі для вядзення асабістых падсобных гаспадарак. Аказанне ўсебаковай падтрымкі індывідуальным сялянскім гаспадаркам, членам садова-агародніцкіх таварыстваў.

— задавальненне патрэбнасцей насельніцтва ў асноўных прадуктах харчавання, давядзенне да 1995 года спажывання мясных прадуктаў у разліку на аднаго жыхара рэспублікі да 85 кг і малочных—да 450 кг, значнае павышэнне ўзроўню спажывання агародніны, фруктаў і прадуктаў іх перапрацоўкі, хутчэйшае насычэнне рынку прадуктамі дзіцячага харчавання; устанаўленне адзіных цэн на мясапрадукты, рэалізуемыя ў гарадах і сельскай мясцовасці;

— стабілізацыю сітуацыі на спажывецкім рынку, ліквідацыю дэфіцыту тавараў першай неабходнасці і паслуг, паляпшэнне якасці спажывецкай прадукцыі, збалансаванасць росту грашовых даходаў насельніцтва з ростам выпуску таварнай масы, прадухіленне вымывання таннага асартыменту вырабаў. Павелічэнне ў 1990 годзе выпуску тавараў народнага спажывання ў параўнанні з планам мінулага года не менш чым на 10 працэнтаў, аб'ёму рэалізацыі платных паслуг—на 17 працэнтаў, а ў 13-й пяцігодцы—у цэлым за нармалізацыю гандлю таварамі шырокага спажывання;

— мабілізацыю дадатковых рэсурсаў на паскоранае вырашэнне жыллёвай праблемы, павелічэнне аб'ёму уводу жылля ў 13-й пяцігодцы ў параўнанні з бягучай у 1,3—1,5 раза; задавальненне патрэбнасці сельскага насельніцтва ў жыллі да 1995 года;

— значнае павышэнне тэмпаў і паляпшэнне якасці будаўніцтва; рамонту і ўтрымання аўтамабільных дарог, завяршэнне да 1995 года добраўпарадкавання ўсіх сельскіх населеных пунктаў з колькасцю дамоў 20 і больш;

— паскарэнне тэмпаў сацыяльнай перабудовы вёскі, паляпшэнне ўмоў працы і быту сельскіх працаўнікоў, правядзенне шырокай газа- цепла-электрыфікацыі сельскага жыллёвага фонду і вытворчых памяшканняў, за распрацоўку ў кожнай вобласці комплекснай праграмы развіцця малых населеных пунктаў;

— рэалізацыю комплекснай праграмы «Здароўе», істотнае павышэнне якасці аховы здароўя, узмацненне прафілактычнай накіраванасці медыцынскіх паслуг, забеспячэнне насельніцтва лякарствамі, аднаразовымі шпрыцамі і іншым медыцынскім інструментам. Павелічэнне ўводу ў дзеянне бальніц у 13-й пяцігодцы ў параўнанні з бягучай у 1,8 раза, стварэнне на цэнтральнай сядзібе кожнага калгаса і саўгаса ўчастковай бальніцы або ўрачэбнай амбулаторыі, фельчарска - акушэрскага пункта. Накіраванне са згоды працоўных калектываў валютных сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый для набыцця дыягнастычнай апаратуры і іншай медыцынскай тэхнікі, а таксама лекавых сродкаў;

— будаўніцтва ў кожнай вобласці спецыяльных жыллёва - вытворчых комплексаў для інвалідаў з цяжкімі парушэннямі апорна - рухальнага апарата і іншымі захворваннямі, паскоранае развіццё і павышэнне ўзроўню сацыяльнага абслугоўвання адзінокіх непрацаздольных грамадзян на даму;

— павелічэнне працягласці штогадовага водпуску ўсім катэгорыям працоўных да 24 рабочых дзён, аплатнага водпуску маці па догляду дзіцяці пры захаванні бесперапыннага працоўнага стажу, паляпшэнне ўмоў працы і быту жанчын.

## 5. ЭКАЛАГІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Надаючы выключнае значэнне вырашэнню экалагічных праблем у інтарэсах цяперашняга і будучага пакаленняў, Кампартыя Беларусі выступае за:

— удасканаленне і няўхільнае выкананне экалагічнага заканадаўства ў рэспубліцы;

— безумоўнае выкананне Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, арганізацыю пастаяннай інфармацыі аб праводзімай рабоце і радыяцыйнай абстаноўцы ў месцах пражывання і дзейнасці людзей;

— спыненне ў 13-й пяцігодцы скіду неачышчаных прамысловых вод у паверхневыя вадаёмы; выключэнне выкарыстання пітной вады на тэхнічныя патрэбы; скарачэнне выкідаў шкодных рэчываў у атмасферу да ўзроўняў, якія не вырашаюць гранічна дапушчальных; паэтапны пераход на экалагічна чыстыя тэхналогіі;

— увядзенне ў дзеянне эканамічнага механізма, які прадугледжвае ўстанаўленне платы за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, забруджванне навакольнага асяроддзя і стымуляванне на гэтай аснове актыўнай прыродаахоўнай дзейнасці;

— прыняцце саюзнымі, рэспубліканскімі міністэрствамі і ведамствамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў і аб'яднанняў, гаспадарак, выканкомамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў канкрэтных мер па далейшаму аздараўленню экалагічнай абстаноўкі ў гарадах Магілёве, Гомелі, Мінску, Наваполацку, Бабруйску, Салігорску, Светлагорску, Крычаве, Ваўкавыску, у зоне возера Нарач, іншых населеных пунктах;

— увядзенне экалагічна бяспечнай сельскагаспадарчай вытворчасці, рацыянальнае выкарыстанне мясцовых рэсурсаў, правядзенне комплексных лесааднаўленчых работ, расшырэнне прыродаахоўных і запаведных зон;

— шырокае і публічнае абмеркаванне, незалежную экалагічную экспертызу праграм і праектаў будаўніцтва буйных вытворчых аб'ектаў, якія закранаюць карэнныя інтарэсы насельніцтва;

— інтэнсіўнае развіццё экалагічнай навукі, стварэнне эфектыўнай сістэмы экалагічнага ўсенавуча насельніцтва, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў;

— публічны і кваліфікаваны кантроль за экалагічнай абстаноўкай і якасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, аб'ектыўную інфармацыю аб фактычным стане навакольнага прыроднага асяроддзя;

— усямерную падтрымку грамадскіх арганізацый, усіх грамадзян, якія выступаюць з канструктыўнымі прапановамі па ахове і аздараўленні навакольнага асяроддзя, умацаванне іх узаемадзеяння з дзяржаўнымі органамі аховы прыроды;

— расшырэнне супрацоўніцтва з зарубежнымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі ў пытаннях удасканалення прыродакарыстання, ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, вырашэння іншых экалагічных праблем, няўхільнае выкананне абавязацельстваў рэспублікі па міжнародных пагадненнях у галіне аховы навакольнага асяроддзя.

## 6. ПРАВАВАЯ ПАЛІТЫКА

Кампартыя Беларусі лічыць сваім абавязкам памножыць уклад у стварэнне сацыялістычнай прававой дзяржавы, якая гарантуе дасягненне дэмакратычнага сацыялізму з яго прынцыпамі народаўладдзя, гуманізму, сацыяльнай справядлівасці, разглядаючы ў якасці важнейшай задачы распрацоўку новай Канстытуцыі Беларускай ССР.

Кампартыя Беларусі выступае за:

— дэмакратызацыю грамадскага жыцця праз поўнаўладдзе Саветаў народных дэпутатаў, фарміраванне органаў дзяржаўнай улады і кіравання з дакладным раздзяленнем заканадаўчых, выканаўчых і судовых функцый;

— забеспячэнне вяршэнства закона ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця, захаванне прынцыпу адказнасці не толькі грамадзяніна перад дзяржавай, але і дзяржавы перад грамадзянінам;

— поўную роўнасць усіх перад законам, незалежна ад паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, роду і характару заняткаў, месца жыхарства і іншых акалічнасцей;

— усталяванне прынцыпаў недатыкальнасці асобы, рэальнае ажыццяўленне палітычных, эканамічных, сацыяльных правоў і свабод грамадзян рэспублікі, стварэнне прававога механізма іх абароны законамі БССР;

— павышэнне аўтарытэту суда, забеспячэнне яго незалежнасці і падпарадкавання толькі закону, узмацненне ролі адвакатуры і арбітражу ў абароне правоў і законных інтарэсаў грамадзян і арганізацый;

— стварэнне эфектыўнай сістэмы прававога выхавання і юрыдычнага ўсенавуча насельніцтва, павышэнне ўзроўню прававых ведаў кіруючых кадраў, узмацненне ролі юрыстаў у народнай гаспадарцы, у дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і кіравання.

Кампартыя Беларусі ўсямерна падтрымлівае патрабаванне шырокіх слаёў насельніцтва аб умацаванні арганізаванасці і парадку, дысцыпліны і адказнасці. Яна лічыць неабходным рашуча ўзмацніць барацьбу са злачыннасцю і прыняць у гэтым напрамку рад неадкладных мер:

— распрацаваць рэспубліканскую праграму барацьбы са злачыннасцю;

— правесці арганізацыйныя мерапрыемствы па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы праваахоўчых органаў, іх кадравага саставу, павышэнні прафесіяналізму ў рабоце, у заканадаўчым парадку забяспечыць узмацненне сацыяльна-прававой абароненасці работнікаў суда, органаў пракуратуры, міліцыі.

Кампартыя Беларусі будзе актыўна выкарыстоўваць свае права заканадаўчай ініцыятывы для выпрацоўкі прапаноў па дэмакратычным рэгуляванні важнейшых грамадскіх працэсаў, у тым ліку якія датычаць праблем узаемаадносін партыі і дзяржавы, дзяржавы і асобы, правоў чалавека, па прывядзенні рэспубліканскага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнародна-прававымі актамі, удзельніцай якіх з'яўляецца Беларуская ССР.

## 7. УЗАЕМАДЗЕЯННЕ З ГРАМАДСКІМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Кампартыя Беларусі вядзе канструктыўны дыялог з усімі грамадскімі арганізацыямі, рухамі і групамі, якія выступаюць за абнаўленне грамадства на сацыялістычнай аснове, кансалідуе ўсе здаровыя сілы для вырашэння задач палітычнага, духоўнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Разам з тым яна рашуча асуджае і адхіляе любыя дзеянні, накіраваныя на падрыў і кампраметацыю сацыялістычнага ладу, парушэнне стабільнасці і парадку ў грамадстве, дыскрэдытацыю Узброеных Сіл СССР.

Кампартыя Беларусі заяўляе аб сваёй зацікаўленасці ў моцных, аўтарытэтных, актыўна дзеючых прафсаюзах, здольных забяспечваць сумесна з адміністрацыяй стварэнне неабходных умоў для бяспечнай і высокапрадукцыйнай працы, вучобы і адпачынку працоўных, адстойваць правы і законныя інтарэсы членаў прафсаюза.

Кампартыя Беларусі лічыць неабходным ажыццяўленне цэласнай і дзейснай дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да моладзі. Яна разглядае камсамол рэспублікі як самастойную грамадска-палітычную арганізацыю, якая стаіць на адзінай з КПБ палітычнай платформе, і будуе свае адносіны з ім на прынцыпах палітычнага давер'я, таварыскасці, паважлівасці, узаемнай адказнасці і актыўнага ўзаемадзеяння ў вырашэнні задач перабудовы, адхіляючы любыя спробы ізаляваць камсамол, моладзь ад партыі, проціпаставіць пакаленні.

Кампартыя Беларусі выступае за:

— заканадаўчае вырашэнне пытання аб грамадскіх арганізацыях і самадзейных аб'яднаннях грамадзян, гарантуючае іх правы і адказнасць перад народам і дзяржавай;

— распрацоўку эфектыўнага механізма рэалізацыі маладымі грамадзянамі рэспублікі сваіх канстытуцыйных правоў, прыняцце закона БССР аб моладзі, стварэнне ў новым саставе Вярхоўнага Савета Беларускай ССР камісіі па пытаннях маладзёжнай палітыкі, а ва ўрадзе рэспублікі — аддзела па справах моладзі;

— вырашэнне матэрыяльных і сацыяльна-бытавых пытанняў навучэнцаў і студэнтаў, расшырэнне будаўніцтва жылля для моладзі, паляпшэнне ўмоў для працы, адпачынку, заняткаў тэхнічнай і мастацкай творчасцю, фізкультурай і спортам, забеспячэнне надзейнай падтрымкі маладым талентам.

## 8. ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ І ПЕРАБУДОВА ЎНУТРЫПАРТЫЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Кампартыя Беларусі рашуча выказваецца супраць федэралізацыі КПСС, раздзялення камуністаў па нацыянальнай або сацыяльнай адзнацы, выступае за ідэйнае і арганізацыйнае згуртаванне радоў партыі, дэмакратызацыю кадравай палітыкі. Галоўнымі крытэрыямі ацэнкі кадраў павінны быць ідэйна-палітычная і маральная сталасць, адданасць справе сацыялізму, кампетэнтнасць, уменне працаваць з людзьмі, арганізоўваць іх на канкрэтныя справы. Яна развівае прынцыповую, стваральную крытыку і самакрытыку, дабіваецца авалодання палітычнымі метадамі работы, безумоўнага выканання партыйных рашэнняў.

Для паспяховага вырашэння задач сацыялістычнага абнаўлення з улікам нацыянальна-гістарычных, палітычных, сацыяльных, культурных, эканамічных асаблівасцей развіцця рэспублікі, умацавання яе суверэнітэту Кампартыя Беларусі павінна мець сваю праграму дзеянняў.

Кампартыя Беларусі:

— адраджае ленінскае разуменне прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму: свабоду дыскусій на стадыі абмеркавання пытанняў і адзінства дзеянняў пасля прыняцця рашэнняў большасцю, узмацненне яго дэмакратычнай сутнасці шляхам ажыццяўлення кантролю знізу, недапушчальнасць праследавання тых, хто выказвае іншую думку, улік і абарону пункта погляду меншасці, калі ён не разыходзіцца з патрабаваннямі Праграмы і Статута КПСС;

— дэмакратызуе фарміраванне ўсіх выбарных органаў партыі, забяспечвае адкрытасць і публічнасць у іх рабоце, рэгулярную справаздачнасць перад камуністамі і насельніцтвам, права адклікання з саставу любога кіруючага партыйнага органа людзей, якія не праявілі сябе ў справе, а таксама скампраметавалі сябе;

— забяспечвае дзейсны ўплыў камуністаў на падбор кадраў партыі і фарміраванне выбарных органаў, іх непасрэдны ўдзел у выбарчым працэсе на ўсіх узроўнях — ад партыйнай групы да ЦК КПБ;

— выступае за выпрацоўку новага Статута КПСС, які адлюстроўваў бы сучасны ўзровень развіцця партыі, яе месца і ролю ў савецкім грамадстве ва ўмовах перабудовы;

— увасабляе ў жыццё патрабаванні XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС аб тым, што ў партыі ні адзін орган, ні адзін камуніст не можа быць па-за крытыкай, па-за кантролем, вядзе паслядоўную барацьбу з бюракратызмам ва ўсіх яго праяўленнях;

— выступае за стварэнне адзінай сістэмы дзяржаўнага і грамадскага кантролю;

— рашуча вызваляецца ад перарадженцаў, двурушнікаў, усіх тых, хто здрадзіў ідэйным прынцыпам КПСС, хто падрывае аўтарытэт партыі;

— павышае персанальную адказнасць камуністаў, якія працуюць у Саветах народных дэпутатаў, у дзяржаўных і гаспадарчых органах, грамадскіх арганізацыях, за практычнае ажыццяўленне палітыкі перабудовы;

— перабудоўвае дзейнасць усіх звенняў рэспубліканскай партыйнай арганізацыі, прыводзіць функцыі і структуру партыйнага апарату ў адпаведнасць з новымі ўмовамі, умацоўвае сувязь з працоўнымі, сістэматычна вывучае і ўлічвае грамадскую думку пры распрацоўцы і прыняцці прынцыпова важных рашэнняў.

Адам ГЛОБУС

# А БЕЛАРУСЫ НІЧОГА НЕ МАЮЦЬ?

Нататкі пра мініяцюру

### КВАНТЭМА

Спачатку згадаем такую квантэму Алеся Разанава:

**Руіны запарушваюцца**
**рунь**
**ўваскрашэнне руны**
**неба блізка**

А цяпер успомнім, як іх сустрэлі—не прыхільнасцю, не з жаданнем зразумець, а са штыкамі крытычных рэцэнзій, якія затрымалі выданне паэтычнага зборніка «Шлях-360» на пяць год. Дзякуючы гэтым штыкам, напэўна, квантэма не змагла прайсці ў «Паэтычны слоўнік», як не прайшлі туды і разанаўскія версэты. Дык чаму такое непрыняцце новых паэтычных форм склалася ў нашым літаратурным асяроддзі? Ці не таму, што няма ў «Словаре литературоведческих терминов»? Тое, што паэт зрабіў адкрыццё, пад увагу не бярэцца. Нездарма ж у рэдактарскім асяроддзі замацавалася пераканане, што яшчэ нікога з работы не знялі за тое. што ён нешта выкрасліў, зняў ці не пусціў, здымаюць толькі тады, калі прапусціш, не выкрасліш, дазволіш... Квантэмы не пускалі, і ківалі на рускую літаратуру. Там няма—і ў нас не павінна быць. Тое, што падобная формы распрацоўваліся паэтамі Літвы, Латвіі і Эстоніі, у разлік не бралася. Тое, што рабілася ў польскай літаратуры, таксама ігнаравалася. Так працэй жыць. У рускіх ямб—і ў нас ямб, у іх харэй—і ў нас харэй. Калі сам Аляксандр Сяргеевіч не пісаў квантэм, значыць, і Аляксандру Сцяпанавічу іх пісаць неабавязкова. Для пэўных асоб гэта было аргументам, а вось для мяне такой аргументацыі недастаткова. І вось чаму. А. Пушкін заўсёды застаецца верным сынам царашанавальнага народа і паклаў не адну цагліну ў культавы манумент Пятра І — тырана і заваёўніка. Калі параўнаць лёс і творчасць Пушкіна з лёсам і творчасцю Адама Міцкевіча, дык мне больш зразумелая барацьба за вызваленне Польшчы, чым пісанне радкоў накшталт — «приют убогого чухонца» ці «назло надменному соседу»... Праўда, тут трэба абавязкова абгаварыць, што для беларускай літаратуры былі і такія часы, калі «нашым класікам» з'яўляўся А. Міцкевіч. А для беларускамоўных літаратараў, што жывуць на Беласточчыне, і зараз гэтае пытанне застаецца адкрытым, як акно ў Еўропу. Таму хай сабе буду не арыгінальным, але скажу, што нашы класікі — гэта Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч, а іхнія паэтычныя зоркі свецяць дастаткова ярка на небасхіле сусветнай паэзіі, каб не блукаць паміж дзвюх руска-польскіх соснаў.

Але вернемся да квантэмы. Яна нарадзілася ў нас, на Беларусі, і ў гэтым яе няшчасце. Бо трэба было радавацца, але радавацца мы не ўмеем, мы больш умеем скардзіцца, ныць, плакаць... Гэта ў крыві, гэта нацыянальная рыса. Вось яе ўзор у класічнай паэзіі — «а беларусы нічога не маюць». І калі раптам нешта з'явілася, дык трэба як хутчэй зрабіць выгляд, што гэта нешта зусім і не нашае—я не я, і хата не мая...

Асабіста маё стаўленне да квантэм А. Разанава неадназначнае. Як чытач, я з вялікім задавальненнем чытаю і перачытваю квантэмы, а вось як паэт не магу пазбавіцца жадання перапісаць іх па-свойму. Пакажу на прыкладзе:

**Руіны запарушваюцца.**
**Рунь.**
**Неба блізка.**

Вось у такім варыянце мне больш зразумела квантэма. Першы радок — антытэза, другі — тэза, трэці — іншасць. Радок «уваскрашэнне руны», на мой погляд, занадта дэкаратыўны, рамантычны, павярхоўны, і таму я здымаю яго. Вяртанне знакаў прыпынку і адпаведна вялікіх літар надае вершу, на мой погляд, большую завершанасць, але разам з тым не пазбаўляе фрагментарнасці і адкрытасці. Але, можа (ні ў якім разе не настойваю), мой варыянт горшы, бо нагадвае спробу ператварыць квантэму ў хайку.

### ХАЙКУ

Калі паглядзець на гісторыю з іншага боку, чым гэта зроблена аўтарамі падручнікаў, дык атрымліваецца дзіўныя рэчы. Я прапаную глядзець на гісторыю не абстрактна, бо асабіста для мяне не існуе абстрактнай навукі гісторыі, а ёсць гісторыя вайны, гісторыя дзяржавы, гісторыя фізікі, гісторыя культуры. Калі чыста эксперыментальна рассячы гісторыю на дзве часткі, адна з якіх гісторыя культуры, а другая — гісторыя бескультур'я, — мы атрымаем даволі нечаканы вынік. Большасць з'яў, фактаў, асоб, датаў, упісаных у падручнікі, звязана з вайной, дыктатам, тыраніяй, разбурэннем, а калі абагульніць — з бескультур'ем. І таму вазьму на сябе адказнасць і зраблю выснову: мы вывучалі ў школе і ў інстытуце на занятках па гісторыі бескультур'е.

Такі ўступ мне спатрэбіўся, каб растлумачыць месца хайку (хоку) спачатку ў японскай культуры, а потым, наколькі гэта магчыма, і ў нашай.

Японская культура была рассечана самурайскім мячом: па адзін бок існавала культура самураяў з іх рытуаламі, турнірамі, хронікамі, гістарычнымі раманамі, параднымі партрэтамі шаноўных асоб; а па другі бок, у процівагу, развівалася духоўна-народная культура з жартамі, песнямі, казкамі. Па адной дарозе ішлі валацугі самураі, узброеныя, жорсткія, сквапныя, і вандроўныя паэты. Яны ішлі па адной дарозе, але неслі рознае: самураі — гвалт і злачынства, паэты — духоўнасць і прасветленасць. У адным палацы жылі імператар (вядома, самурай) і прыдворныя паэты, але тут процілегласці ў поглядах не было. Таму вернемся на пыльныя шляхі. Хайку нарадзіўся з народных жартаў і пэўны час супрацьстаяў самурайскай культуры з яе цалкам закананізаванымі вершамі. Не памылюся, калі скажу, што ў час супрацьстаяння хайку дасягнуў найвышэйшага росквіту. Нездарма першым паэтам Японіі застаецца вандроўны літаратар Мацуа Басё (1644—1694). Бо пазней, паступова і незаўважна, імператарская культура прагліне хайку, кананізуе яе, акадэмізуе. Хайку стане часткай самурайскай культуры, напоўніцца публіцыстычным зместам, згубіць лірычнасць і лёгкасць. Але творчасць Басё застаецца, і ўсе намаганні імперскіх крытыкаў зрабіць з яго самурая марныя. Для Басё сам вобраз самурая быў па-за межамі эстэтычнага. Іншая справа Іса (1763—1827), ён уводзіць у хайку «князя-гордеца», зразумела, адмоўнага:

**Как вишни расцвели!**
**Они с коня согнали**
**И князя-гордеца**
(Пераклад Веры Маркавай).

Але наступны крок зробяць прыдворныя паэты.

Калі ў 1986 годзе вырашалася пытанне, ці ставіць у «Паэтычны слоўнік» у якасці прыкладу мой хайку, дык Вячаслаў Пятровіч Рагойша прапанаваў напісаць хайку пра бюракрата. Я не напісаў, даверыўся інтуітыўнаму пратэсту. Але галоўнае было зроблена, было пастаўлена заданне і нечакана знайшоўся выканаўца—паэт Зянон. Побач з вершам:

**Зайшоў у кавярню**
**няўзнак.**
**Выйшаў аж мокры асфальт.**
**Пералётны дождж ык**

ён паставіў:

**Якія халодныя вочы ў гэтага**
**бюракрата.**
**І рука, нібы рыба.**
**А распытвае пра здароўе**

І тым самым скончыў эвалюцыйны працэс вольнага хайку.

На жаль, падрыхтаваны да друку зборнік хайку беларускіх паэтаў не ўбачыў свету. Дзеля жарту можна было б працытаваць урыўкі з рэцэнзіі і рэдактарскага заключэння, але для мяне яны знаходзяцца за межамі эстэтычнага.

Змены ў грамадстве і змены ў хайку, напэўна, набліжаюць той час, калі кніга хайку ўбачыць свет.

### ТАНКА

Прынцып адмаўлення ад уласных набыткаў — я не я, і хата не мая — спрацаваў і ў дачыненні да танка. Калі вам няцяжка, разгарніце першы том Максіма Багдановіча (1968 год) і вы ўбачыце, што яго пяцірадкоўі стаяць у раздзеле перакладаў. Для тых, хто не мае двухтомніка, цытую:

**Ах, як спявае**
**Сінявокая птушка**
**У муках кахання.**
**Сціхні, птушачка, сціхні,**
**Каб не тамілася я.**

У першым выданні «Паэтычнага слоўніка» (1915 год) Багдановічавы танка падаваліся як пераклады з японскай паэзіі, але не ўдакладнялся імя паэта, якога пераклаў наш класік. Я нават рабіў спробу знайсці аўтара арыгінала, чытаў і перачытваў рускія пераклады танка, але марна. Аўтара я знайшоў у архіве, калі мяне, як рэстаўратара, запрасілі замацаваць пастэлі і малюнкі вугалем. Я пакрываў малюнкі антысептыкам, праца не з прыемных, і ў якасці кампенсацыі папрасіў дазволу пагледзець скрынку з надпісам «М. Багдановіч». У скрынцы, акрамя фотакопій (чытаць з-за благой якасці іх проста немагчыма), была адна газета з артыкулам Змітрака Бядулі. Артыкул быў напісаны да дзесяцігоддзя смерці вялікага паэта. Змітрок Бядуля згадваў, як

---

*Думка чытача*

# ЦІ ПАТРЭБЕН НАМ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС

**Так** ужо павялося, што да нядаўняга часу вывучэнне дарэвалюцыйнай гісторыі было ўдзелам нешматлікіх вучоных-спецыялістаў і энтузіястаў-аматараў. Дзе-нідзе з'яўляліся публікацыі ў нешматлікіх вузка-спецыяльных выданнях, навуковыя манаграфіі выходзілі мізэрнымі тыражамі. Папулярныя выданні па гісторыі былі вялікай рэдкасцю. Ды і не дзіўна. Ці не з першых гадоў Савецкай улады — і чым далей, тым больш — людзей пераконвалі, што да рэвалюцыі гісторыі як бы і не існавала, а так, нейкая «перадгісторыя», не вартая ўвагі...

Сёння савецкія народы зноў вяртаюцца да ўсведамлення сваёй чалавечай годнасці, сваіх духоўных каранёў. Давайце паглядзім, якімі ж сродкамі асвятляецца ў друку гісторыя нашай рэспублікі — Беларусі. Прагледаючы планы выпуску літаратуры на 1990 год, я звярнуў увагу на рэзкае павелічэнне колькасці выданняў краязнаўчай тэматыкі. А як жа ў нас справа з перыядычным друкам? Першым і найгалоўным часопісам у гэтым плане былі «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Цяпер у нас шмат нараканняў на Таварыства аховы помнікаў, але часопіс (бюлетэнь) пад яго рэдакцыяй даваў разнастайную інфармацыю, хаця і не заўсёды ў дастатковым аб'ёме. У рэдакцыю маглі прынесці свае артыкулы і масціты вучоны, і пачынаючы аматар. Вось толькі бюлетэнь выходзіў усяго чатыры разы на год, а пасля падаражання паперы ў 1980 годзе яшчэ і «пахудзеў». Да таго ж часопіс быў «шырокага профілю» — у ім асвятляліся ўсе аспекты аховы помнікаў, ды першую і пануючую ролю займалі артыкулы ваенна-патрыятычнага характару і аб працоўнай славе. Але за адсутнасцю большага і гэта быў прамень святла ў «цёмным царстве».

З верасня гэтага года пачаў выходзіць на базе «Помнікаў» новы часопіс «Спадчына». Пакуль нічога канкрэтнага аб ім сказаць не магу, але, відаць, у ім адбудуцца некаторыя істотныя перамены. Па-першае, змяніліся галоўны рэдактар і склад рэдкалегіі, цяпер тут больш нашых знакамітых беларускіх пісьменнікаў, членаў Беларускага фонду культуры (Фонд разам з Таварыствам аховы помнікаў з'яўляецца выдаўцом «Спадчыны»). Па-другое, павялічыўся аб'ём выдання. Як мне сказалі, цяпер часопіс будзе больш працаваць на папулярызацыю гісторыі. Гэта, безумоўна, радасна. Толькі ці знойдзецца ў ім месца для навуковых артыкулаў па гісторыі, асабліва лакальнай. звязанай з канкрэтнымі гарадамі і вёскамі, помнікамі архітэктуры і мастацтва, для краязнаўчых нарысаў?

Дзе яшчэ можна пачытаць аб мінулым? Назаву навуковыя акадэмічны і універсітэцкі часопіс: «Весці Акадэміі навук БССР» (серыя грамадскіх навук) і «Веснік БДУ» (серыя «Гісторыя, філасофія, навуковы камунізм, эканоміка, права»). Але вы паглядзіце на тыраж гэтых выданняў. У першым выпадку гэта каля 500 экземпляраў, а ў другім — менш за 1000, распаўсюджваюцца яны толькі па падпісцы, ды і няшмат у іх адведзена месца для старажытнасці. Асабліва гэта датычыцца «Весніка БДУ», які да таго ж выходзіць усяго тры разы на год.

Ёсць у нас яшчэ адзін навуковы часопіс «Строительстао и архитектура Белоруссии». Аб'яднаўшыся з часопісам «Сельское строительство Белоруссии», ён стаў выдавацца часцей — 6 раз на год. У ім змяшчаюцца цікавыя артыкулы па гісторыі архітэктуры, але гэта бывае не часта, як гаворыць, «цераз раз». Ужо некалькі гадоў выходзіць спецыяльны часопіс «Мастацтва Беларусі». Акрамя асноўных тэм па праблемах сучаснага мастацтва, у ім калі-нікалі друкуюцца і артыкулы аб старажытнай архітэктуры, жывапісе, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, кніжнай графіцы, археалогіі і г. д., багата ілюстраваныя, што дазваляюць магчымасці часопіса. Але гэтага недастаткова, прытым часопіс дарагі — паўтара рубля, што выклікае двaістве адчуванне.

На гэтым практычна спіс навуковых і спецыяльных часопісаў вычэрпваецца. А цяпер хацелася б паглядзець, на якім узроўні была выдавецкая справа ў часы «праклятага мінулага», у царскай Расіі. Я апушчу агляд выданняў, якія выходзілі па-за межамі Паўночна-Заходняга краю,— у Варшаве, Кракаве, Львове, Кіеве, Пецярбурзе, Маскве і ў многіх іншых гарадах, таму што артыкул у гэтым выпадку пагражае ператварыцца ў бібліяграфічны даведнік.

Цэнтрам культурнага і палітычнага жыцця краю была Вільня — былая сталіца Вялікага княства Літоўскага, дзе і выходзіла большасць перыядычных выданняў. Так гістарычна склалася, што носьбітамі культуры тут была польская і апалячаная мясцовая беларуска-літоўская інтэлігенцыя, таму ў першай палове XIX стагоддзя тутэйшыя кнігі, часопісы і газеты выходзілі за невялікім выключэннем на польскай мове. Наступ рускай мовы пачаўся пасля задушэння паўстання 1863—64 гадоў па загаду графа М. Мураўёва, віленскага генерал-губернатара, і прадоўжыўся яго паслядоўнікамі (Патапавым і інш.) Сярод польскіх навуковых і грамадска-палітычных часопісаў і газет таго часу можна назваць «Дзённік Віленьскі» (1805—06, 1815—30), «Дзее добрачыннасьці» (1820—24), «Атэнэум» (1841—51), «Кур'ер Літэвскі» (1764—1840, аднавіўся ў 1905), «Кур'ер Віленьскі» (1841—65, аднавіўся ў 1910), «Жыце ілюстрованэ» (1907—09) і інш. Тут друкаваліся разнастайныя даследаванні і нарысы па гісторыі, дыярыушы і іншыя літаратурныя творы гістарычнага зместу, а таксама краязнаўчыя матэрыялы, тэксты старажытных грамат і ўрыўкі з летапісаў.

У пачатку XX стагоддзя выдавецкая дзейнасць на поль-

яны з Багдановічам жылі ў Мінску і як той у сшытак збіраў паэтычныя формы. Бядуля апісаў якраз той момант, калі Багдановіч займаўся японскімі вершамі. Я зрабіў выпіску з артыкула, і ў выніку другое выданне «Паэтычнага слоўніка» замацавала за Максімам Багдановічам званне першаадкрывальніка беларускага танка.

На жаль, амаль семдзесят гадоў ніхто з беларускіх паэтаў не распрацоўваў пачатую Багдановічам працу. Прычыну бачу ў тым жа непрыняцці. У якасці прыкладу можа служыць танка Уладзіміра Сцяпана:

**Высока ў небе**
**Птушкі ляцяць**
**на поўдзень.**
**Чуе іх крыкі,**
**Хістаецца зжоўклы ліст...**
**Хутка і ён паляціць.**

Пасля публікацыі верша ў газеце «Літаратура і мастацтва» з высокіх трыбун і са старонак выданняў на пяцірадкоўе абрынулася столькі крытыкі, колькі нават графаманскія аповесці і раманы не бачылі. Але ў гэтай крытычнай канanadзе былі і станоўчыя якасці. Маладыя паэты адчулі, што іх чакае, калі не ісці традыцыйным шляхам; адчулі, убачылі і не адступіліся.

## РУБАІ

**Зялёны край. Знаёмы кут.**
**Мне б назаўжды застацца**
**тут,**
**Каб не было на свеце іншых**
**Дарог, шуканняў і пакут.**

Не ведаю, як для вас, а для мяне ў гэтым выдатным рубаі Яўгеніі Янішчыц адгукнулася класічнае коласаўскае:

**Мой родны кут, як ты мне**
**мілы,**
**Забыць цябе не маю сілы.**

Але адгукнулася на іншым эмацыянальным узроўні. Знакамітыя радкі з «Новай зямлі» зніtаваны ў мяне з пэўнай гісторыяй. Перакладчык беларускай паэзіі на рускую мову Фёдар Яфімаў казаў, што не ведае рускага паэта, які змог бы перакласці гэтыя радкі і захаваць іх выразнасць, вобразнасць і сілу. Я пагадзіўся, бо ў кожнай паэзіі ёсць творы неперакладныя, ёсць вобразы, якія не маюць адэкватнасці ні ў адной з іншамоўных паэзій, за іх кошт і існуе паэзія пэўнага народа на пэўнай мове. Дзякуючы коласаўскаму вобразу жыве беларуская паэзія. Можа змяніцца форма, словы, але застаецца вобраз, застаецца дух.

Яшчэ мяне ўражвае ў рубаі Яўгеніі Янішчыц медытатыўнасць, заглыбленасць у сябе, філасафічнасць. Знойдзены Коласам вобраз набывае ў рубаі нечаканы драматычны фінал. І як сумна, што і гэты шлях не знайшоў паслядоўнікаў.

## ГРЭГЕРЫЯ

«...Грэгерыя — дзічка, выпадковасць, выпадак. Грэгерыя адважная і разам з тым баязлівая.

Грэгерыя — гэта парыў вызначыць невызначальнае, схапіць тое, што знікае. Так ускрыкваюць, калі сутыкаюцца, раптоўна, рэчы і душы. і не трэба рабіць гэтыя ўскрыкі больш паэтычнымі, чым яны ёсць.

Грэгерыя не агульнае месца, не пэўная ісціна. Грэгерыя не афарызм, пыхлівы, які не дапусціць пярэчанняў.

Грэгерыя — гэта неабходная змена пункту назірання. Грэгерыя нечакана змяняе ракурс і ловіць абрысы вечнага свету, які нараджаецца ў кожным імгненні».

Так знаёміў чытачоў з грэгерыяй яе «вынаходнік»— іспанскі літаратар Рамон Гомес дэ ла Серна. Ён параўноўваў грэгерыі з хайку і касыдаю. Ён даў свету новую літаратурную форму, у якой аб'ядналіся Усход і Захад. Адзінае, у чым я не пагаджаюся з вынаходнікам, дык гэта тое, што грэгерыя — празаічны жанр. Для мяне грэгерыя — верш. Паглядзіце самі:

**Хоку — паэтычная**
**тэлеграма,**
**Камяні ўмеюць чакаць.**
**Таполя — зялёныя матылі**
**на галінах.**
**Лакатары шукаюць бога.**

Заходніх і ўсходніх паслядоўнікаў Рамона Гомеса дэ ла Серны я, на вялікі жаль, не ведаю. А вось нашага беларускага «грэгерыянца» я добра ведаў. Мастак Валянцін Дзялендзік пісаў грэгеры, пісаў ён іх для сябе, зрэдку паказваў сябрам.

Пасля публікацыі ў часопісе «Крыніца» майго дакументальнага апавядання «Мінскі авангард» у рэдакцыю завітаў Андрэй Радзівонаў—Валянцінаў аднакурснік па інстытуце, і даў мне вялікі агульны сшытак, спрэс спісаны акуратным почыркам. Гэта быў дзённік. Я чытаў і перачытваў запісы, нібыта вяртаўся ў часы нашага з Валянцінам сяброўства, якое перарвала ягоная трагічная смерць. Сярод цытат з Сервантэса і Германа Гесэ, сярод кароткіх апавяданняў «З цыкла «Лікі сонца» і дакументальных нататак былі «парассыпаны» грэгеры. Я выбраў іх, перапісаў на каталогавыя карткі і паказаў сябрам-паэтам. Аднадушнасці ў меркаваннях не было, але ўсе пагаджаліся, што грэгеры варты публікавання.

Услухайцеся:

**Маці ўсё строчыць і строчыць на швейнай машынцы, нібыта хоча некуды з'ехаць.**

Адчуваеце, як змяніўся ракурс, як у аскепку адбіўся цэлы свет? Ці яшчэ:

**Зачыніце ціры! Яны невыносныя для сляпых.**

Зразумела, што не адразу, не праз дзве грэгеры можна зразумець законы паэтычнага свету Валянціна Дзялендзіка, але і праз гэтыя вершы можна адчуць існасць гэтага свету.

Грэгерыя — гульня, забаўка, звон пацеркаў — «чыстая» метафара.

У адрозненне ад квантэмы, грэгерыя «жывапісная», а не «гукапісная», яна відавочная, зрокавая, фактурная, а не музычная ці эфемерная.

У грэгеры неабходна іронія, а не гумар і сарказм, бо жарт — зусім іншая форма гульні.

У артыкуле рускай паэткі Веры Маркавай «Доўгая дарога кароткай песні» ёсць такія словы: «Кароткі верш (усяго некалькі слоў) здатны стаць магутным кандэнсатарам думкі і пачуцця. Кожны верш — маленькая паэма. Яна кліча ўдумацца, адчуць, адчыніць унутраны зрок і ўнутраны слых. Чуйныя чытачы — сатворцы паэзіі». Гэтымі словамі і хацелася б скончыць мае нататкі пра беларускую мініяцюру.

---

скай мове аднавілася яшчэ больш бурнымі тэмпамі. З'явіліся новыя навуковыя часопісы гісторыка-культурнага зместу: «Рочнік Товажыства Пшыяцюл Наук в Вільне» (з 1908), «Літва і Русь» (1912—13), а таксама шмат грамадска-палітычных выданняў, якія не адставалі ад навуковых па асвятленні гісторыі і краязнаўства на сваіх старонках. У гэты ж час у газетах і часопісах пачалі друкаваць фотаілюстрацыі, часцяком краязнаўчага характару, што істотна ўзбагаціла іх. Некаторыя з іх прадоўжылі жыццё пасля 1-й сусветнай вайны ў 1920—30-я гады на тэрыторыі тагачаснай Польшчы. З новых выданняў таго часу найбольш цікавыя: «Атэнэум Віленьске» (1923—39), «Зьрудла моцы» (1927—31), «Працэ і матэр'ялы справоздавчэ Сэкцыі Гістор'і Штукі» (1935—39) і іншыя. Акрамя таго, перыядычна выходзіла неймаверная колькасць разнастайных календароў, што змяшчалі гісторыка-краязнаўчую інфармацыю, фотаздымкі і малюнкі з адлюстраваннем помнікаў старажытнасці, гістарычных падзей і асоб.

З 2-й паловы XIX стагоддзя рэзка ўзрасла колькасць выданняў на рускай мове. Большасць з іх вылучала імкненне асвятляць не толькі грамадска-палітычнае жыццё наваколля, але і даваць матэрыялы аб мінулым. У Вільні гэта былі «Виленский вестник» (1841—1916), «Виленские губернские ведомости» (1838—1916), «Литовские епархиальные ведомости» (1863—1916) і многія іншыя. Акрамя таго, Археаграфічная камісія ў Вільні выдавала зборнікі гістарычных дакументаў. У пачатку XX стагоддзя сталі выходзіць выданні і на беларускай мове: «Наша Ніва» (1906—15), «Беларускі каляндар» (1911—16) і іншыя.

Таксама перыядычныя выданні выходзілі і ў іншых губернскіх гарадах: Мінску, Віцебску, Гродне і Магілёве. Гэта былі ў першую чаргу губернскія і епархіяльныя ведамасці і «Памятные книжки».

У 1920—30-я гады на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў ваяводскіх і павятовых цэнтрах выходзіла вялікая колькасць перыёдыкі на польскай, беларускай, рускай, яўрэйскай мовах. Найбольш цікавыя з іх (на польскай мове: «Земя Лідзка» (Ліда, 1935—39), «Земя Дзісеньска» (Глыбокае, 1931), «Земя Піньска» (Брэст, з 1926), «Крэсы ілюстрованэ» (Брэст, з 1924), «Краёзнавство» (Гродна, з 1936) і шмат іншых. Застаецца толькі шкадаваць, што гэтыя выданні, якія змяшчалі шмат цікавай інфармацыі,— вялікая бібліяграфічная рэдкасць. Іх амаль няма нават у нашых буйнейшых бібліятэках — імя Леніна і акадэмічнай. Застаецца адзначыць, што за 120 год знаходжання Беларусі і Вільні ў складзе Расійскай імперыі, а таксама за 20 год Заходняй Беларусі і Віленскага краю ў складзе Польшчы пабачылі свет болей за 500 (!) найменняў разнастайных перыядычных выданняў, і ў большасці з іх адводзілася значнае месца гісторыка-краязнаўчай і культурнай тэматыцы.

Ужо даўно наспела неабходнасць стварэння новых часопісаў у Беларусі — гістарычнага, краязнаўчага, архіўнага. Тут хацелася б заўважыць, што ў беларускіх архівістаў было ўжо сваё выданне, але яно спыніла існаванне, чаму — незразумела. Няўжо ў нашай архіўнай справе ўсё ў парадку і няма чаго вывучаць? Можна яшчэ ўспомніць тэматычныя зборнікі гістарычных дакументаў, якія былі падрыхтаваны ў савецкі час беларускімі архівістамі. Але я хачу пажадаць, каб іх тэматыка ў будучым была шырэйшай, а таксама няблага было б пачаць выдаваць пэўныя архіўныя фонды, напрыклад, кнігі гродскіх і земскіх павятовых судоў XVI—XVIII стст., якія з'яўляюцца каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі па вывучэнні жыцця, побыту і культуры беларускага народа,— як гэта пачала рабіць у свой час Віленская Археаграфічная камісія.

Нарэшце, хацелася б яшчэ пажадаць рэдакцыям часопісаў і газет часцей друкаваць на сваіх старонках матэрыялы па нашай старажытнай гісторыі і культуры, і не толькі агульнадзяржаўнага, палітычнага і праблемнага характару, але і лакальнага — аб гарадах і вёсках, аб помніках архітэктуры, аб мясцінах, звязаных са славутымі асобамі, каб кожны чалавек, мясцовы жыхар ці прыезджы, ведаў, дзе ён жыве, па якіх вуліцах ходзіць, якія будынкі бачыць. Каб наша гісторыя не была чымсьці далёкім і невядомым, пакрытым пылам архівасховішч, а прадаўжала жыць разам з намі, у навучанне нашчадкам.

**Г. БРЭГЕР.**

г. Мінск.

---

*Нашы госці*

# З далёкага штата Карнатак

Трыццаць аўтараў, пяцьдзесят шэсць вершаў уключыў перакладчык Будданна Хінгамірэ ў «Анталогію беларускай паэзіі», якая выйшла ў 1985 годзе на мове каннада ў індыйскім штаце Карнатак. І вось нядаўна паэт, крытык і перакладчык Будданна Хінгамірэ наведаў Мінск як госць Саюза пісьменнікаў БССР. Я папрасіў яго расказаць пра гэтае выданне.

— Анталогія адкрываецца творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча, а заканчваецца вершам Ніны Мацяш, — сказаў перакладчык.

— Ваша анталогія — яшчэ адзін доказ таго, што беларуская літаратура выходзіць на размову з усім светам. Я збіраю калекцыю кніг беларускіх аўтараў, выпушчаных за мяжой. Маю цяпер каля трохсот такіх выданняў. Здаецца ўжо можна і не здзіўляцца выхаду чарговай нашай кнігі за мяжой. І ўсё ж мяне не пакідае прыемнае здзіўленне: дзе тая Беларусь і дзе той штат Карнатак, а дайшла туды наша паэзія!

— Ваш паэт Максім Танк сказаў, што ў свеце не толькі квітнеюць кветкі, але і ўсюды жыве паэзія. Што да практычнага боку справы, то я меў ужо вопыт перакладчыцкай працы над класічнай і сучаснай паэзіяй, выдаў у сваім перакладзе кнігу паэзіі Пушкіна, за якую пазней мне была прысуджана прэмія імя Джавахарлала Неру. Выдаў таксама зборнік твораў Шаўчэнкі, пераклаў паасобныя творы Лесі Украінкі, Аведіка Ісаакяна... Трынаццаць год назад прачытаў анталогію беларускай паэзіі, выпушчаную на англійскай мове ў Маскве. Ваша паэзія літаральна захапіла мяне. Яна зямная, у ёй многа фальклорных элементаў. А ў нас нават ёсць «фальклорныя» паэты. Пасля знаёмства з анталогіяй я напісаў у Саюз пісьменнікаў Беларусі, каб мне памаглі матэрыяламі, вершаваннямі, публікацыямі. Атрымаў асабліва поўнае ўяўленне пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Я выкладаю мову каннада ў Карнатакскім універсітэце, займаюся там навукова-даследчыцкай дзейнасцю. Апрача хіндзі і санскрыта, ведаю англійскую мову, вывучыў самастойна рускую. Усё гэта дапамагло мне прыступіцца да перакладу беларускай паэзіі. Атрымліваю часопіс «Нёман», а цяпер вось вязу з сабой падарунак — двухтомны беларуска-рускі слоўнік. Буду спрабаваць перакладаць беларускую паэзію з арыгінала. Дарэчы, я напісаў у свой час рэцэнзію на раман Івана Шамякіна «Снежныя зімы», яна апублікавана ва універсітэцкім часопісе «Карнатак Бхараці» зз 1982 год.

— Аўтар прадмовы да анталогіі доктар Дхаван выказаў надзею, што гэта кніга ўзрушыць розумы і сэрцы вашых маладых паэтаў, яны будуць натхнёны тым шляхам, які прайшоў беларускі народ, Беларусь. Як сустрэты быў выпуск анталогіі вашымі чытачамі?

— Вельмі добра, асабліва маладым чытачом, студэнтамі. Я гэта адчуваю па студэнцкай аўдыторыі, перад якой пастаянна выступаю. У нас часта заходзіць гаворка аб беларускай паэзіі.

— Назавіце, калі ласка, некалькі імёнаў вашых паэтаў, у прыватнасці, класікаў.

— Самы вялікі наш паэт — Пампа. Першы. Жыў у дзесятым стагоддзі. Наогул літаратура на мове каннада вельмі багатая, пра яе можна многа, бясконца гаварыць. Тут жа я хачу назваць яшчэ толькі адно імя — паэта дванаццатага стагоддзя Басавэнны. Ён прапаведваў у сваёй творчасці роўнасць, грамадскую справядлівасць.

Доктар Будданна Хінгамірэ сустрэўся з групай беларускіх паэтаў, чые творы ўключаны ў анталогію. З вялікім запалам чытаў ім свае пераклады. З цікавасцю ўслухоўваліся Максім Танк, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў, Мікола Арочка ў гучанне сваіх вершаў на далёкай, незнаёмай мове. Па рытміцы, па строфіцы яны неўзабаве пачалі адгадваць назвы вершаў: «Хай будзе святло», «Дубовы ліст», «Дзівак-чалавек», «Мова»... (Дзеля поўнай інфармацыі пералічу імёны і іншых аўтараў анталогіі, якія тут яшчэ не называліся: Уладзімір Дубоўка, Пятрусь Броўка, Сяргей Дзяргай, Анатоль Астрэйка, Аляксей Русецкі, Васіль Вітка, Аркадзь Куляшоў, Эдзі Агняцвет, Мікола Сурначоў, Пімен Панчанка, Алесь Бачыла, Аркадзь Марціновіч, Аляксей Пысін, Еўдакія Лось, Ніл Гілевіч, Іван Калеснік, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Анатоль Грачанікаў, Вольга Іпатава, Яўгенія Янішчыц).

На пытанне аб творчых планах на далейшае госць адказаў:

— Мая першачарговая задача — перакладаць беларускіх сучасных паэтаў. Я хачу выдаць анталогію паэзіі Савецкага Саюза. Ёсць і звышзадача — зрабіць анталогію паэзіі свету. Я ўжо выдаў анталогію балгарскай паэзіі. Усё зробленае — толькі прыступка да маёй звышмары, звышзадачы.

Пажадаем Будданне Хінгамірэ поспехаў на нялёгкай перакладчыцкай ніве, у вырашэнні ім усіх яго планаў, задач, у тым ліку і— звышзадачы.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# РЭКВІЕМ МАГІЛЁЎСКІХ КАР'ЕРАЎ

мясакамбінаце, цяпер пенсіянер) расказаў, што да вайны ён часта пасвіў кароў у раёне кар'ераў, дзе быў малады сасоннік. Часта па вечарах ён чуў стрэлы. Калі раніцай, яшчэ да ўзыходу сонца (гадзіны ў чатыры) Іосіф Сямёнавіч гнаў кароў у поле, то бачыў свежыя ямы, прысыпаныя пяском. Часта зямля на ямах варушылася, «хадзіла хадуном».

Аднойчы ён убачыў побач з месцам расстрэлаў чалавека, які сядзеў на зямлі ля куста. Гэты чалавек махнуў Іосіфу Сямёнавічу рукой і паклікаў.

Пастух спачатку спалохаўся, а потым усё ж падышоў. Чалавек быў у чорным падрасніку, валасы ў яго былі доўгія, а шыя завязана брудным ручніком ці анучай. Ён цяжка дыхаў. Было відаць, што чалавек зусім слабы. Ён папрасіў піць. Іосіф Сямёнавіч падаў бутэльку малака, якую браў з сабой, але незнаёмец адмовіўся ад малака і сказаў, што хоча вады.

Іосіф Сямёнавіч прынёс яму бутэльку вады, набраў яе ў крыніцы. Незнаёмец схапіў бутэльку абедзвюма рукамі і пачаў прагна піць. Выпіўшы ўсю бутэльку, папрасіў яшчэ. Іосіф Сямёнавіч зноў прынёс вады. Незнаёмец сказаў яму: «Дзякуй табе. Няхай цябе бог ратуе. Я — свяшчэннік». А потым спытаў: «Дзе знаходзіцца вёска Халмы?!» Іосіф Сямёнавіч растлумачыў яму, дзе знаходзіцца тая вёска. Свяшчэннік з вялікай цяжкасцю ўстаў і паволі пайшоў у бок Аршанскай шашы. Іосіф Сямёнавіч здагадаўся, што свяшчэннік нейкім цудам застаўся жывы пасля расстрэлу. Які яго далейшы лёс, Іосіф Сямёнавіч не ведае.

Зінаіда Іванаўна Чамахуд (1916 года нараджэння, працавала дыспетчарам на аўтабазе, цяпер пенсіянерка) пастаянна жыве ў Магілёве. Зінаіда Іванаўна расказала, што ў 1937 годзе, аднойчы ноччу, у дом яе бацькі Івана Патапавіча Баранычнікава прыбег мужчына са звязанымі ззаду вяроўкай рукамі. У роце ў яго быў корак. Гэтаму чалавеку ўдалося збегчы з месца расстрэлу. Іван Патапавіч Баранычнікаў аказаў яму дапамогу, і ён пайшоў. Што было з гэтым няшчасным пасля — невядома.

Васіль Рыгоравіч Нячаеў (1928 года нараджэння, працуе ў РБУ слесарам) расказаў, што ў 1935—1938 гадах на месцы кар'ераў (насупраць цяперашняга мясакамбіната) праводзіліся расстрэлы людзей.

Васіль Нячаеў разам з таварышамі-падлеткамі (Мішам Блашовым і Валодзем Падліпскім) часта бегаў на месца расстрэлаў, хоць бацькі і забаранілі яму хадзіць туды. Ён бачыў свежавыкапаныя ямы, у якіх ляжалі расстраляныя, прыкрытыя хваёвымі лапкамі і толькі крыху прысыпаныя пяском. Васіль Рыгоравіч дагэтуль добра памятае, як у адной з ям убачыў з-пад пяску крыло чорнага скуранога паліто і нагу чалавека.

Аднойчы Нячаеў бег з Валодзем Падліпскім праз сасоннік. Падліпскі хацеў пераскочыць цераз куст, але зачапіўся і ўпаў. «Ідзі хутчэй сюды! Паглядзі, што тут»,— спалохана паклікаў ён Васіля. Калі Васіль падышоў да яго, то ўбачыў каля куста яму, у якой ляжалі расстраляныя, прыкрытыя толькі хвойнымі лапкамі. Прыбегшы дадому, Васіль расказаў пра ўбачанае бацьку. «Гады, хоць бы зямлёй прысыпалі няшчасных людзей»,—з горыччу сказаў бацька.

У час вайны немцы пачалі браць пясок у кар'ерах і выявілі вялікую колькасць чалавечых касцей і чарапоў. Пасля гэтага немцы перасталі браць пясок у кар'ерах.

Паліна Цімафееўна Падлінская (1920 года нараджэння, пенсіянерка) жыве ў раёне мясакамбіната з 1929 года. Да вайны яна працавала ў саўгасе «Давыдаўка», а потым на сушыльным заводзе. Яна расказвала, што вечарамі сюды прывозілі людзей на расстрэл. «Бывала, выйдзеш вечарам у двор і чуеш стрэлы, крыкі людзей»,— успамінае Паліна Цімафееўна. Яна са слязьмі бегла да бацькі і гаварыла: «Тата, зноў людзі крычаць, паслухай».— «Гэта «ворагаў народа» прывезлі»,— адказваў ёй бацька — Цімафей Фацеевіч Падлінскі.

Паліна Цімафееўна разам з сяброўкамі Марыяй Рабачуковай і Надзеяй Янічковай часта хадзіла на месца расстрэлаў. Пасля ўсяго ўбачанага і перажытага Паліна Цімафееўна часта плакала па начах. Цяжкія ўспаміны не пакідаюць яе і цяпер. Паліна Цімафееўна бачыць гэтыя кар'еры кожны дзень. Дом яе стаіць зусім побач —метраў за сто. У 60-я гады П. Ц. Падлінская працавала ў райспажыўсаюзе, разам з іншымі рабочымі яна рабіла колцы для калодзежаў. Пясок для вырабу колцаў бралі з кар'ераў. У пяску, па яе словах, знаходзілі шмат чалавечых касцей і чарапоў, а таксама рэшткі адзення, галёшы, бахілы, разбітыя кубкі, грабянцы, гузікі, кашалькі, манеты, датаваныя 30-мі гадамі, халявы і падэшвы ботаў, чаравікі і г. д.

Многія падлеткі, якія жылі да вайны ў раёне мясакамбіната (В. Д. Гужава, Г. А. Радзіёнаў і інш.), нягледзячы на строгую забарону бацькоў і страх, пастаянна бегалі на месца расстрэлаў. І цяпер, праз больш чым 50 гадоў, яны з хваляваннем і болем успамінаюць тыя страшныя падзеі.

Усе сведкі пацвярджаюць, што ў кар'ерах у час вайны і пасля яе расстрэлы не праводзіліся.

У ліпені 1987 года па патрабаванні грамадскасці ў кар'ерах працавала камісія Кастрычніцкага райвыканкома г. Магілёва. Судова-медыцынскім экспертам у гэтай камісіі быў В. І. Манышаў. Я сустрэлася з Валерыем Іванавічам Манышавым, які працуе судова-медыцынскім экспертам у Бюро судова-медыцынскай экспертызы Магілёўскай вобласці. Валерый Іванавіч расказаў, што раскопкі праводзіліся на скосе кар'ера ўсяго тры дні і толькі ў адным месцы на невялікім участку даўжынёй 5—6 метраў. Пры раскопках было знойдзена мноства касцей і чарапоў. Частка чарапоў добра захавалася, многія — часткова разбураны. Было таксама знойдзена шмат кавалкаў чарапоў. Усяго пры раскопках былі выяўлены чалавечыя астанкі 102 чалавек. Судова-медыцынскі эксперт Манышаў правёў іх падрабязны агляд. Ён знайшоў ва ўсіх чарапах па дзве кулявыя адтуліны: меншая — у патылічнай частцы, а большая адтуліна — у лобнай частцы чэрапа.

Была знойдзена пры раскопках вялікая колькасць добра захаванага гумавага абутку (бахілы, галёшы і г. д.), на якім стаяла маркіроўка фабрык «Чырвоны волат», «Чырвоны трохкутнік». Большасць галёш маркіраваны 1937 годам. Знаходзілі боты з касцямі голені чалавека, падэшвы ботаў, чаравікі, высокія бахілы, кашалькі, рэшткі адзення і іншыя прадметы. Знойдзеныя рэчы сведчаць аб тым, што забітыя — цывільныя людзі. В. І. Манышаў сказаў, што яшчэ ў ліпені 1987 года пасля агляду чалавечых астанкаў і прадметаў ён зрабіў заключэнне, што яны належаць ахвярам рэпрэсій, якія адбываліся ў другой палавіне трыццатых гадоў.

І цяпер, праз два гады, Манышаў яшчэ больш перакананы ў правільнасці свайго заключэння. Ускосным доказам гэтага служаць вынікі расследавання масавага забойства людзей у Курапатах — той жа злачынны почырк.



Выступае сведка злачынстваў В. ЧЫЖ.




Мітынг-рэквіем на краі кар'ера.

Фота М. МІРОНАВА, С. ЖАЛУДОВІЧА.

Жыхарка Магілёва Ніна Іванаўна Абразоўская (1931 года нараджэння, пенсіянерка) расказала, што ў 60-ыя гады яна разам з суседзямі вырашыла пасеяць бульбу насупраць мясакамбіната. Калі зямлю пачалі араць, знайшлі вялікую колькасць касцей, чарапоў з кулявымі адтулінамі, рэшткі адзення і г. д. Яны паведамілі пра гэта мясцовым уладам. Прыехалі ваенныя. Калі бульдозерам знялі верхні пласт зямлі, Ніна Іванаўна з жахам убачыла астанкі людзей, якія ляжалі ў рад — больш за 10 чалавек. Захаваліся крыжы, пярсцёнкі, абутак, рэшткі адзення. Відаць, забітыя былі святарамі.

Калі бульдозерам пачалі капаць глыбей, то знайшлі яшчэ большую колькасць чалавечых астанкаў. Н. Абразоўская расказала, што вайскоўцы пачалі збіраць астанкі і класці іх у труны. Але касцей і чарапоў было так многа, што яны не змясціліся ў труны, прывезеныя вайскоўцамі. Тады ўсе астанкі, што засталіся, паклалі на брызент і павезлі.

Фёдар Яфімавіч Атрошкін (1933 года нараджэння) жыве метраў за дзвесце ад кар'ера. Ён расказаў, што калі распрацоўвалі пясчаныя кар'еры, ускрыліся ямы, набітыя астанкамі людзей. У адным месцы, калі адзін раз капнулі зямлю каўшом экскаватара, высыпалася адразу 18 чарапоў. Фёдар Яфімавіч бачыў у яме, якую толькі ўскрылі, астанкі людзей, складзеныя штабялямі. Калі машыны везлі з кар'ераў пясок,— расказваў ён,— з машын сыпаліся косці. Нават бетонамяшалкі псаваліся з-за таго, што было многа касцей у пяску.

У кар'ерах выкопвалі боты, гумовы абутак са штампамі «Чырвоны волат», «Чырвоны трохкутнік», «Гуматрэст», акуляры, грабянцы, чаравікі, падэшвы ботаў, манеты, рэшткі адзення і г. д. Знаходзілі ў кар'еры залатыя каронкі і пярсцёнкі.

Пра тое, што ў кар'ерах праводзіліся расстрэлы, жыхары Магілёва ведалі даўно.

Яшчэ ў 60-я гады, а потым у 70-я і 80-я пры выпрацоўцы кар'ераў пад пясок тут знаходзілі вялікую колькасць чалавечых касцей, чарапы з кулявымі адтулінамі, абутак, рэшткі адзення і г. д.

П. В. Дзевічынскі працаваў у 70-я гады ў кар'еры на экскаватары. Ён успамінае: «Ляціць глыба, а на ёй — бот. Падэшва адвальваецца, і з бота выпадае чалавечая косць. Бачыць гэта было цяжка». Чалавечыя астанкі знаходзіліся неглыбока, менш за 1 метр. Аднойчы экскаватары знялі верхні пласт зямлі і адкрылі некалькі ям, запоўненых чалавечымі астанкамі (касцямі, чарапамі і г. д.).

Ва ўсіх цывілізаваных краінах свету месцы пахавання людзей — гэта святыя месцы, іх беражна ахоўваюць, шануюць памяць аб тых, хто памёр. А ў Магілёўскіх кар'ерах чалавечыя астанкі ляжалі на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў. З гэтага журботнага, святога месца вазілі пясок у перамешку з чалавечымі касцямі на будаўніцтва дамоў і г. д. Красамоўны прыклад духоўнага збяднення грамадства, непавагі да памяці ахвяр рэпрэсій, да памяці нашых дзядоў і прадзедаў.

І яшчэ. Не магу пазбавіцца думкі аб тым, што некаму, відаць, было выгадна ўпарта, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, знішчаць сляды злачынстваў сталіншчыны ў Магілёўскіх кар'ерах.

У наш час, калі ідзе аднаўленне справядлівасці, злачынна маўчаць пра самы трагічны перыяд у гісторыі нашага народа. Неабходна ўзнавіць поўную і неўпрыгожаную праўду аб мінулым, дастойна і галосна ўвекавечыць памяць пра ўсе ахвяры сталінскіх рэпрэсій, пра мільёны загубленых і знявечаных жыццяў.

Выратаванне народа — у гістарычнай памяці і праўдзе. Народ, які не помніць свайго мінулага, асуджаны зноў яго перажыць.

P. S. 29 кастрычніка 1989 года на жалобным месцы каля Магілёўскіх кар'ераў адбыўся мітынг-рэквіем. Па ініцыятыве актывістаў абласнога філіяла «Мартыралога Беларусі» тут быў устаноўлены знак у памяць пра ахвяры сталінскіх рэпрэсій — шасціметровы крыж, асвечаны архіепіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім Максімам.

Мітынг-рэквіем адкрыў народны дэпутат СССР С. Габрусеў. Пісьменнік А. Вольскі высыпаў у кар'ер зямлю, прывезеную з Курапат. Потым выступілі відавочцы масавых расстрэлаў — В. М. Чыж, А. С. Чамахуд і іншыя. Былыя вязні сталінскіх лагераў І. Міроненка, В. Чашэй, Я. Халіпаў расказалі аб перажытым, заклікалі зрабіць усё дзеля таго, каб мінулае ніколі не паўтарылася.

На мітынгу выступіў кіраўнік «Талакі» С. Вітушка.

Прысутныя хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ахвяр рэпрэсій.

Дзень 29 кастрычніка для магіляўчан стаў днём вяртання памяці, аднаўлення справядлівасці для тых людзей, якіх абылгалі, прынізілі і забілі сталінскія каты. Варта прыгадаць, што 29 кастрычніка 1937 года былі расстраляны нашы землякі з Магілёўшчыны П. Галавач — пісьменнік, першы сакратар ЦК камсамола Беларусі і пісьменнік В. Каваль. У гэты ж дзень расстралялі І. Харыка — пісьменніка, члена-карэспандэнта АН БССР, і пісьменніка А. Вольнага. А колькі яшчэ жыццяў трагічна абарвалася ў гэты дзень?

**Тамара РАМАНЬКОВА,**
**старшыня Магілёўскай абласной філіі гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі».**

*Позірк у мінулае*

**Юрый ДРАГУН**

# Пра уніяцтва і дзяржаўную палітыку

Вядома, што гісторыя хрысціянскай царквы — гэта гісторыя барацьбы двух пачаткаў: драблення (так званы «ерэтычны» рух, вылучэнне розных плыняў пратэстантызму, сект) і імкнення да аб'яднання. Але і ў гэтым імкненні да аб'яднання былі таксама розныя плыні. «Рэлігійны сінкрэтызм», калі пры аб'яднанні павінны былі зліцца вераванні і абрады. «Празелітызм» — аб'яднанне, пры якім адна канфесія падначальвае другую. І «экуменізм», прыхільнікі якога падтрымліваюць ідэю «хрысціянскага плюралізму», а збліжэнне розных напрамкаў хрысціянства адбываецца на аснове ўзаемных уступак. Разглядаючы адносіны паміж рознымі плынямі хрысціянства, трэба ўлічваць велізарную дыялектычную складанасць гэтых адносін, гістарычную зменлівасць палітычных, эканамічных інтарэсаў розных класаў, сацыяльных груп у розных умовах.

У XVI ст. Расійская дзяржава не раз распачынала вайну супраць Вялікага княства Літоўскага і Польшчы з мэтай захопу земляў суседзяў, пашырэння сваёй тэрыторыі. Ідэалагічным абгрунтаваннем палітычных намаганняў расійскіх феадалаў была тэорыя вызвалення зямель, якія былі калісьці падпарадкаваны Кіеву (адсюль і тэрмін «воссоединение» Беларусі з Расіяй, які дажыў да нашага часу і які М. М. Улашчык заўсёды браў у двукоссе), бо Маскоўская дзяржава — гэта працяг Кіеўскай, адбыўся толькі перанос сталіц: з Кіева ва Уладзімір, а потым у Маскву.

Палітычныя намаганні Маскоўскай дзяржавы грунтаваліся на клерыкальнай ідэалагічнай аснове. Згодна тэорыі «Масква — трэці Рым», падпісанне ў 1439 г. Фларэнційскай уніі паміж канстанцінопальскім патрыярхам і Ватыканам, гэта адыход ад «истинного христианства». За гэта ўсходняя царква і была пакарана Богам: галоўны цэнтр — Канстанцінопаль — быў захоплены ў 1453 г. туркамі. Таму рэлігійным цэнтрам стала Масква, якая павінна ўзяць на сябе функцыю аб'яднання ўсіх праваслаўных народаў пад эгідаю рускага цара, вызваліць іх ад каталіцкага прыгнёту. Канцэпцыя «вызвалення заходняй Русі» (пазней «заходняй Расіі») ад прыгнёту палякаў, літоўцаў і каталіцкай царквы, якія хацелі апалячыць і акаталічыць рускі народ заходняй Расіі (гэта значыць, беларусаў і ўкраінцаў), трывала замацавалася ў дарэвалюцыйнай дваранска-буржуазнай і клерыкальнай гістарыяграфіі. Гэтую канцэпцыю прыкмеціў і даў ёй ацэнку Ф. Энгельс. Ён пісаў: «У XVI стагоддзі, калі ў Польшчы панавалі езуіты, праваслаўных прымушалі далучыцца да рымска-каталіцкай царквы. Гэта давала вялікарускім царам жаданую прычыну для пасягання на тэрыторыю былога Літоўскага княства, як на нацыянальную рускую вобласць, прыгнечаную... Польшчай.., другая прычына для ўмяшальніцтва складалася ў тым, каб у якасці абаронцы праваслаўя выступіць на карысць праваслаўных уніятаў, хоць апошнія даўно ўжо змірыліся са сваім становішчам у адносінах да рымска-каталіцкай».

Гісторыя уніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў бярэ пачатак са згаданай ужо так званай Фларэнційскай уніі 1439 г. Штуршком да заключэння яе быў зварот візантыйскага імператара і канстанцінопальскага патрыярха да папы рымскага з прапановай арганізаваць сумесны крыжовы паход хрысціянскіх дзяржаў супраць мусульман-туркаў, якія пагражалі Візантыі з усходу. У заключэнні гэтай уніі была зацікаўлена фларэнційская і венецыянская знаць, якая разлічвала на пашырэнне гандлю на ўсходзе. На саборы, які адбыўся ў Фларэнцыі і дзе быў падпісаны дакумент аб уніі, побач з дзеячамі каталіцкай царквы прымалі ўдзел усходнія патрыярхі і ў тым ліку прадстаўнікі рускай праваслаўнай царквы, — маскоўскі мітрапаліт Ісідар. Але унія не апраўдала надзей.

Саму каталіцкую царкву раздзіралі супярэчнасці: мясцовыя цэрквы патрабавалі аўтаноміі. У праваслаўных краінах адмаўляліся прызнаваць Фларэнційскую унію. Мітрапаліт Ісідар па загаду вялікага князя Маскоўскага быў адлучаны ад кіравання царквой і арыштаваны. (Пазней яму ўдалося ўцячы ў Літву). Такім чынам, Фларэнційская унія існавала толькі на паперы. Але сама ідэя стварэння царкоўнай уніі засталася.

У якім жа становішчы знаходзілася праваслаўная царква Вялікага княства Літоўскага? У XV ст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім былі напружанымі, характарызаваліся ўзаемнымі прэтэнзіямі на пагранічныя землі. У той жа час існавала не зусім звычайная з'ява: праваслаўная царква Літоўскага княства была падпарадкавана маскоўскаму мітрапаліту, які, зразумела, падтрымліваў палітыку «свайго» князя — маскоўскага.

Пытанне аб стварэнні аўтакефальнай (самастойнай, незалежнай ад маскоўскага мітрапаліта) праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага ставілася яшчэ ў XIV ст. Так, у 1354 годзе канстанцінопальскі патрыярх зацвердзіў адразу двух мітрапалітаў «на ўсю Рускую зямлю». Мітрапаліт Аляксей быў пастаўлены на Маскоўскае княства, а Раман — на «Літоўскую і Валынскую зямлі». У 1415 г. па ініцыятыве Вялікага князя Літоўскага Вітаўта епіскапы абралі мітрапалітам праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага балгарына Грыгорыя Цамблака. Але пасля яго смерці ў 1420 г. Вітаўт прымае ў сябе маскоўскага мітрапаліта Фоція (1422 г.). У 1433 г. канстанцінопальскі патрыярх паставіў мітрапалітам праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага смаленскага епіскапа Герасіма. Апошні намагаўся наладзіць зносіны з Рымам, з прыхільнікам каталіцкай «партыі» князем Сігізмундам Кейстутавічам, за што ў 1435 г. быў спалены ў Віцебску па загаду князя Свідрыгайлы, які выступаў як кіраўнік і прыхільнік «партыі» праваслаўных.

У 1458 г. мітрапалітам «Кіеўскім, Літоўскім і ўсёй Ніжняй Расіі» быў пастаўлены Грыгорый, якога прызнаў урад Вялікага княства Літоўскага і праваслаўныя іерархі. З гэтага часу канчаткова падзяліліся праваслаўныя мітраполіі — Маскоўская і Літоўская.

У XV—XVII ст.ст. усю Еўропу, у тым ліку Польшчу і Вялікае княства Літоўскае ахапіла рэфармацыя, гэта значыць рух супраць папскай каталіцкай царквы. Дзеля барацьбы з рэфармацыяй у Польшчы была ўтворана інквізіцыя, якая спачатку знаходзілася ў руках манахаў, а потым — з 1542 г. — епіскапаў. Але інквізіцыя не атрымала шырокага распаўсюджання і была скіравана супраць «ерэсяў» мяшчан. Калі ж пачалі судзіць шляхту, соймавыя паслы на ваяводскіх сойміках атрымалі інструкцыі дамагацца адмены інквізіцыі. *Пасля спрэчак на сейме* 1552 г. інквізіцыя была скасавана, а ў 1562 г. «уничтожена и по имени», — як пісаў вядомы гісторык М. І. Кастамараў.

Гісторыя палітычнага аб'яднання Літвы і Польшчы, пачынаючы з Крэўскай уніі 1385 г., сведчыць аб тым, што яно заўсёды было нераўнапраўным. Пры больш-менш спрыяльных умовах Літва намагалася разарваць пагадненні. Так было і ў XVI ст., калі буйнейшыя феадалы Вялікага княства Літоўскага спрабавалі выкарыстаць рэфармацыйныя ідэі для стварэння цалкам незалежнай дзяржавы, на што звярнуў увагу К. Тарасаў. Каб здзейсніць задуманае, трэба было мець ідэалагічную падтрымку з боку царквы, якая б адрознівалася ад польскай каталіцкай і ўсходнеславянскай праваслаўнай, падпарадкоўвалася б свецкай уладзе і была дзяржаўнай царквой. І таму літоўскія магнаты, а затым шляхта і мяшчане, хоць мэты ў іх *былі розныя, пачалі* пераходзіць у кальвінізм.

«Рэфармацыя, — першая яшчэ сціплая і смутная спроба супрацьдзеяння сярэдневяковую» (Ф. Энгельс), напалохала феадалаў Польшчы і Літвы і іншых краін. Нават некаторыя праваслаўныя магнаты Рэчы Паспалітай пачалі імкнуцца да саюза з каталіцкай царквой, з Рымам, каб папярэдзіць распаўсюджванне гэтага руху, зберагчы адзінства дзяржавы. Так, князь Канстанцін Астрожскі, вядомы ў дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі як «ревнитель православия», стаў шукаць шляхі да аб'яднання праваслаўнай царквы з каталіцкай, каб адзіным фронтам выступіць супраць рэфармацыйнага руху. У чэрвені 1593 г. ён пісаў аднаму епіскапу: «...маючы намер... адправіцца ў тыя краіны, недалёка ад якіх жыве папа рымскі, прапаную парупіцца пра злучэнне цэркваў». Далей князь К. Астрожскі скардзіцца, што «людзі нашай рэлігіі ўпалі маральна, што пануе ў іх лянота і нядбайнасць» і што яны «разбягаюцца па розных сектах». Дарэчы, шчырым «ревнителем православия» К. Астрожскі стаў пасля таго, як ягоныя ўмовы злучэння цэркваў не былі цалкам прыняты каталіцкай царквой.

Рыму, аднак, удалося не толькі спыніць драбленне каталіцкай царквы, але і перайсці ў наступ на пратэстантызм: у XVI ст. пачалася так званая контррэфармацыя. Адным з элементаў правядзення ў *жыццё контррэфармацыі*, на мой погляд, было адраджэнне ідэі Фларэнційскай уніі, якая згуртоўвала вакол Рыма разам з католікамі і праваслаўных, і тым самым умацоўвала пазіцыі каталіцкай царквы. З заключэннем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. праваслаўныя — цяпер ужо «праваслаўныя уніяты», *па тэрміналогіі Ф. Энгельса*, — рабіліся ворагамі ўсіх пратэстантаў.

Брэсцкую царкоўную унію, на маю думку, можна ацэньваць як праяву экуменізму, бо яна не прывяла да поўнага зліцця канфесій. Абедзве цэрквы пры аб'яднанні пайшлі на ўзаемныя ўступкі. Праваслаўная царква Рэчы Паспалітай прызнавала ўладу папы рымскага і прыняла сімвал веры ў каталіцкім разуменні. Але яна захавала праваслаўную абраднасць і мову богаслужэння (народную, беларускую). Апрача таго, праваслаўная уніяцкая царква стала дзяржаўнай, побач з каталіцкай, а яе іерархі атрымалі роўныя правы з вярхоўнымі дзеячамі каталіцкай царквы.

Рэч Паспалітая — дзяржава шматнацыянальная. Сярод жыхароў гэтай краіны былі людзі розных веравызнанняў: католікі, праваслаўныя, пратэстанты розных плыняў, мусульмане, іудзеі. Прычым гэта былі шматлікія групы, прадстаўнікі якіх займалі высокія дзяржаўныя пасады.

Аднак поруч з барацьбой паміж рознымі канфесіямі, якая праходзіла ў асноўным у выглядзе жорсткай літаратурнай палемікі, у Рэчы Паспалітай была даволі шырока распаўсюджана верацярпімасць. Менавіта яна згладжвала рэлігійныя супярэчнасці, супрацьдзейнічала ўзнікненню рэлігійных войнаў, якія маглі прывесці да ўмяшання суседніх дзяржаў ва ўнутраныя справы краіны. Ф. Энгельс пісаў: «Польшча заўсёды была надзвычай ліберальная ў рэлігійных пытаннях... Большая частка насельніцтва ўсходніх правінцый належала да праваслаўнай веры, у той час як уласна палякі былі католікамі. Значная частка гэтых праваслаўных у XVI стагоддзі была вымушана прызнаць вярхавенства папы, і яны сталі называцца уніятамі, але многія з іх захавалі ва ўсіх адносінах вернасць сваёй ранейшай рэлігіі... І вось рускі ўрад, які ў *сябе ў краіне не цярпеў ніякай* іншай рэлігіі, акрамя праваслаўнай, і караў вераадступніцтва як злачынства, які заваёўваў чужыя нацыі, далучаючы направа і налева чужыя вобласці і ў той жа час усё мацней *скоўваў рускага прыгоннага*, — гэты самы рускі ўрад хутка абрынуўся на Польшчу ў імя рэлігійнай цярпімасці, таму што Польшча нібыта прыціскала праваслаўных...»

Каб апраўдаць палітыку царызму, звязаную з так званым «воссоединением Западной России», у расійскай клерыкальнай і дваранска-буржуазнай гістарыяграфіі і была выпрацавана палітызаваная канцэпцыя аб страшэннай веранецярпімасці ў Рэчы Паспалітай, аб жудаснай палітыцы апалячвання і акаталічвання ўсіх слаёў насельніцтва Беларусі, аб тым, што гэтым поруч з каталіцкай займалася і уніяцкая царква.

Супраць гэтай канцэпцыі рускай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі ўпершыню навукова абгрунтавана выступіў у друку Адам Кіркор. Для абгрунтавання сваіх высноў ён прывёў дадзеныя аб уцёках сялян, у асноўным стараабрадцаў з Расіі ў XVII—XVIII ст. з прычыны рэлігійных праследаванняў, падлічыў, колькі дзесяткаў тысяч іх асела ў розных раёнах Беларусі і Літвы. Разглядаючы рэлігійныя пытанні, ён падкрэсліваў, што ў заключэнні царкоўнай уніі былі зацікаўлены не толькі іерархі каталіцкай, але і праваслаўнай царквы, бо перайшоўшы ва уніяцтва яны атрымлівалі роўныя правы з каталіцкім клірам. Змянілася прававое становішча праваслаўнай (ужо уніяцкай) царквы ў дзяржаве, — яна атрымала правы грамадзянства, стала дзяржаўнай, карысталася падтрымкай з боку караля і папы рымскага. У той жа час А. Кіркор падкрэсліваў, што і пасля заключэння уніі адносіны паміж каталіцкай і уніяцкай цэрквамі заўсёды былі напружанымі. *Ён разгледзеў пытанне аб* прыняцці уніі простым народам. Улічваючы, што феадалы былі «патронамі» праваслаўных прыходаў, просты народ прымаў унію неўсвядомлена, па загаду паноў, якія ў большасці ўжо перайшлі ў каталіцтва. Паколькі абраднасць заставалася ранейшай, мова богаслужэння тая самая, то народ не бачыў і не разумеў той перамены, што на чале царквы стаў папа рымскі, а не канстанцінопальскі патрыярх.

На падставе гістарычных, лінгвістычных, археалагічных, этнаграфічных дадзеных А. Кіркор сцвярджаў, што беларусы — гэта не заходняя «ветвь» рускага народа, і не ўсходняя «ветвь» польскага, як гэта трактавалася ў рускай і польскай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі, а асобная народнасць. Ён даказваў, што існуе не «говор» і не «наречие» рускай ці польскай мовы, а самастойная — беларуская мова.

А. Кіркора падтрымаў рускі гісторык П. Мілюкоў, больш вядомы шырокаму чытачу як лідэр партыі кадэтаў. Ён пісаў, што дагматычныя спрэчкі вяліся сярод вярхоўных уладароў царквы, а просты народ у гэтым нічога не разумеў і нао-

